

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.*

# Газета Слонімская

№ 39 (120). 23 — 29 верасня 1999г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 30.000 руб.

# ГАЗ У ЕЎРОПУ — ПРАЗ СЛОНІМ

**У аўторак, 21 верасня, Слонімшчыну наведаў Аляксандр Лукашэнка. На гэты раз нагодай для візіту сталі ўрачыстасці, прысвечаныя пуску першай чаргі беларускага ўчастка газапровода "Ямал — Еўропа".**



*Рэм Вяхіраў і Аляксандр Лукашэнка адкрываюць газавую засланку*

Прыкладна, у 13.30 у раёне вёскі Парэчча Слонімскага раёна прызямліўся верталёт кіраўніка дзяржавы. А ў той час на пляцоўцы ўжо знаходзіліся тры верталёты, і ў адным з іх прыляцеў старшыня праўлення "Газпрама" Рэм Вяхіраў. Менавіта яму ў гэты дзень Лукашэнка ва ўрачыстай абстаноўцы прышпіліў на грудзі адну з найвялікшых узнагарод краіны — ордэн "Знак Пашаны", які ў той дзень зіхацеў на пінжаку Вяхірава. За што ж так высока быў адзначаны расійскі бізнесмен? Напэўна за тое, што, шмат у чым, менавіта ад яго залежаць пастаўкі прыроднага газу ў нашу краіну з Расіі. А па стану на 1 верасня гэтага года, па інфармацыі агенцтва Інтэрфакс, Беларусь мела запазычанасць перад "Газпрамам" 270,4 млн. даляраў ЗША. Таксама гэтае інфармагенства адзначала, што пытанне запазычанасці па плацяжах было адной з тэм перамоваў Лукашэнкі і Вяхірава на Слонімшчыне. Хаця Аляксандр Рыгоравіч падчас размовы з народам упэўнена заявіў, што Беларусь нічога не павінна Расіі за газ. А ў 2000 годзе, калі на поўную магутнасць запрацуе новая газавая ветка на нашай тэрыторыі, то беларускі бок спадзяецца 50% кошту "блакітнага паліва" аплочваць шляхам узаемаразлікаў за транзітныя паслугі, а астатнія 50% — за кошт росту плацежаздольнасці беларускіх спажыўцоў.

Магчыма, з улікам гэтага ўлады надалі столькі ўвагі сібірска-еўрапейскай газавай трубе. Пасля выступу Лукашэнкі і іншых афіцыйных асобаў, засланку ў газавай трубе асвяцілі праваслаўны святар. Пасля гэтага 10 лепшых рабочых па эстафеце перадалі паходню, ад полымя якой быў запалены сімвалічны агонь. Потым усе ўдзельнікі ўрачыстасці накіраваліся да сталоў, якія былі накрытыя ў вялізных вайсковых палатках. Па словах запрошаных, там было шмат гарэлкі з этыкеткай "Ямал-Заходняя Еўропа" мінскага разліву, а вось закускі бракавала.

Дарэчы, у гэты дзень добра пашанцавала і жыхарам вёсак Парэчча і Васілевічы. Кааператары літаральна завалілі паліцы сялянскіх крамаў таннымі прадуктамі. Людзі нарэшце атрымалі магчымасць купіць цукар, каўбасы і іншых прадуктаў, якія ў апошні час сталі дэфіцытам. У адны рукі давалі і па дзве бутэлькі віна па цане 156 тысяч рублёў за пляшку. Аднак, набіўшы торбы прадуктамі, людзі не здолелі трапіць да месца, дзе праходзіла ўрачыстасць. Усе шляхі перакрылі ахоўнікі Аляксандра Лукашэнкі і міліцыя. У масоўцы ў асноўным удзельнічалі афіцыйныя асобы, а таксама журналісты. Хаця мясцовыя жыхары даволі старанна рыхтаваліся да прыезду кіраўніка дзяржавы. Напрыклад, у панядзелак вучні старэйшых класаў Парэцкай школы, замест заняткаў цэлы дзень збіралі смецце, трaслі з дрэў жоўтае лісце, фарбавалі на могілках плот. А механізатары калгаса "Перамога" пад пільным наглядам старшыні гаспадаркі прыводзілі палеткі ў належны выгляд. Але ўсе тыя прыгажосці Аляксандр Рыгоравіч так і не пабачыў. Паабедаўшы ў палатцы разам з Вяхіравым, ён першы паляцеў у Мінск.

**Сяргей ЁРШ, Віктар ВАЛАДАШЧУК**



*Праваслаўны святар асвячае газапровод*

## НАВІНЫ

### Учения с боевой стрельбой

**Под руководством министра обороны Беларуси генерал-полковника Александра Чумакова в Вооруженных силах республики началось крупномасштабное командно-штабное учение (КШУ) с 28-м и 65-м армейскими корпусами.**

11-я Слонимская механизированная бригада выйдет на полигон под Барановичи почти в полном составе, где 23-24 сентября пройдет тактическое учение с боевой стрельбой.

### Растет минималка

**С 1 октября минимальная заработная плата (МЗП) устанавливается в размере 1 миллиона 450 тысяч рублей, тарифная ставка первого разряда — 3 миллиона рублей для оплаты труда работников бюджетной сферы.**

Ежемесячная доплата работникам бюджетной сферы, имеющим квалификацию с 1 по 10 разряды, устанавливается в размере от 2 миллионов до 100 тысяч рублей соответственно.

В связи с этим в 1,45 раза увеличатся пособия по безработице, пенсии и стипендии. Следует отметить, что это уже третье по счету увеличение МЗП в нынешнем году: прежние повышения "минималки" происходили 1 января и 1 мая.

**БелаПАН**

### Иностранцы — нарушители

**Сегодня на Гродненщине постоянно проживают 9203 иностранца. Из них 204 — граждане республик Кавказа.**

Временно, на законных основаниях, в нашей области находятся только 510 человек из южных республик.

За восемь месяцев этого года иностранцами на территории Гродненской области совершено 83 преступления, в том числе 3 убийства, 4 разбоя, 3 грабежа, изнасилование, мошенничество, 22 кражи. На нарушителей наложено более 8 тысяч административных взысканий, в том числе 1883 — за незаконное пребывание на территории нашей области. Только по этой причине взыскано 1,7 миллиарда штрафов.

Обо всем этом шел разговор на совещании облисполкома с участием всех руководящих работников власти и силовых структур.

**Михаил ОКУЛКО**

# ПРОПАЛ ВИКТОР ГОНЧАР

**Вечером, 16 сентября, в Минске пропал известный деятель оппозиции, первый заместитель председателя Верховного Совета Беларуси 13-го созыва Виктор Гончар.**



Как сообщила БелаПАН жена В.Гончара Зинаида, около 22.45 ее супруг вместе с товарищем выехал на автомобиле "Джип" из бани, расположенной в районе Минского велозавода, однако домой они не вернулись, хотя на 23.30 у Гончара был запланирован разговор с домашнего телефона. Обращения Зинаиды Гончар во все райотделы внутренних дел города и КГБ не принесли результата.

Зинаида Гончар связывает исчезновение своего мужа с выступлением Александра Лукашенко 16 сентября на совещании с руководителями силовых структур, где глава государства в крайне резкой форме отозвался о деятельности оппозиции.

17 сентября друзья и близкие пропавших осмотрели место, где, предположительно, они были похищены. У выезда с автостоянки, расположенной возле бани, были обнаружены осколки разбитого стекла, пятна, похожие на кровь, а также тормозной след автомобиля и следы красной краски на кустах.

Как сообщила супруга В.Гончара Зинаида, сотрудников управления внутренних дел Ленинского района столицы, на территории которого расположена баня, пришлось буквально силком тащить на место происшествия.

Это уже второе таинственное исчезновение видного деятеля белорусской оппозиции. Напомним, что в начале мая нынешнего года при загадочных обстоятельствах в Минске пропал бывший министр внутренних дел Юрий Захаренко.

**Наталья ФУРСОВА**

ТРЫБУНА

# ПЕРАЙСЦІ РУБІКОН

**За нашай усходняй мяжой, у Расіі, ідзе вайна, гінуць сотні расіян. А ў Беларусі ў гэты час знікаюць людзі...**

Днямі ў Мінску знік вядомы апазіцыйны палітык Віктар Ганчар. Яго сябры на наступны дзень знайшлі толькі разбітае задняе шкло машыны, у якой Ганчар ехаў у той вечар. А яшчэ — сляды крыві...

Такая яна, рэчаіснасць Беларусі канца XX стагоддзя. Не выключана, што з цягам часу ў школьных падручніках ключавымі словамі гэтага перыяду гісторыі нашай краіны будуць: дыктатура, палітвязьні, міжнародная ізаляцыя, "ціхія" рэпрэсіі. У часы Іосіфа Сталіна "ворагаў народу" судзілі прылюдна, пра іх шмат пісалі ў газетах, выкрываючы "жудасныя злачынствы". Сёння апазіцыянераў судзяць, як правіла, на закрытых працэсах. Ціха, непрыкметна. З вясны сядзіць у турме былы прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір. Яшчэ ў траўні знік былы міністр унутраных спраў краіны, генерал Юрый Захаранка. А вось цяпер чарга дайшла і да Віктара Ганчара. Сёлета ён ужо сядзеў у турме, дзе трымаў шматдзённую галадоўку. Яго запалохвалі, узбудзілі крымінальную справу, але Ганчар упарта працягваў апазіцыйную дзейнасць на пасадзе намесніка старшыні Вярхоўнага Савета 13-га склікання.

Пра выпадкі знікнення вядомых палітыкаў у Еўропе даўно забыліся. Здавалася, што падобныя жудасныя з'явы таталітарызму сёння магчымы ў Лацінскай Амерыцы альбо ў Афрыцы, але ніяк не ў Еўропе. Але тым не менш, людзі бясследна знікаюць і ў цэнтры Еўропы — у Беларусі...

Пасля такіх выпадкаў перастаеш здзіўляцца, чаму ўжо тры гады за мяжой жыве Зянон Пазьняк і чаму нядаўна з'ехаў у Вільню Сямён Шарэцкі. Беларускія апазіцыйныя палітыкі ў родным краі сёння баяцца за сваё жыццё. А што ўжо можна гаварыць пра простых грамадзян? У каго ім шукаць абароны? Увесь народ не можа ж з'ехаць у эміграцыю...

Тым часам, у сувязі з актывізацыяй тэрарызму ў Расіі, Аляксандр Лукашэнка загадаў сваім сілавым міністрам забяспечыць неабходныя меры бяспекі ў краіне. Як вядома, да гэтага часу ўсходняя мяжа Беларусі адкрытая, тэрарысты з Каўказу могуць вольна завітаць і да нас. Раней кіраўніцтва краіны пра такую акалічнасць не задумвалася, бо збіралася стварыць агульны саюз з Расіяй. Цяпер пра інтэграцыю ўжо не згадваюць. Толькі сёння беларускія дзяржаўныя мужы задумаліся пра тое, як умацаваць усходнія рубяжы краіны.

Сумна і тое, што пад "навядзеннем парадку" іншы раз маецца на ўвазе "зачыстка" апазіцыі, ціск на незалежную прэсу. Знік Ганчар. У суботу, 18 верасня, улады забаранілі распаўсюджванне чарговага нумару "Народнай волі", таму што камусьці не спадабаўся адзін з матэрыялаў у газеце. У чарговы раз у пракуратуру выклікалі рэдактара незалежнай мінскай газеты "Имя" Ірыну Халіп. На газету "Навіны" падаў у суд дзяржсакратар Савета бяспекі Беларусі Віктар Шэйман. Такая хроніка апошніх падзей.

Цяжка сказаць, як далей будуць разгортвацца падзеі на Беларусі. Пакуль невядомы лёс запланаваных перамоваў паміж уладай і апазіцыяй. Пасля знікнення Ганчара яны пад вялікім пытаннем. Складваецца ўражанне, што адзін з канфліктуючых бакоў у барацьбе за ўладу ўжо перайшоў Рубікон...

**Сяргей ЁРШ**


Фота Аляксандра РУЖАЧКІ

# ЧАМУ НЕ ПРАЦУЕ ДОКТАР КУЛАК?

У рэдакцыю нашай газеты пазванілі некалькі былых пацыентаў слонімскага афтальмолага Міхаіла Кулака і папрасілі даведацца чаму ён не працуе? Карэспандэнт "ГС" па тэлефоне звязаўся з Міхаілам Кулаком.

— Сапраўды, — сказаў Міхаіл Антонавіч, — з 31 ліпеня гэтага года я ўжо не працую ў вокавым аддзяленні слонімскай бальніцы. Лічу, што мяне пакрыўдзілі, вызначыўшы мой прафесіянальны лёс без мяне. Замест пасады загадчыка аддзялення мне прапанавалі палову стаўкі ўрача. Няўжо я, усё жыццё аддаўшы афтальмалогіі, гэтага заслужыў? — з крыўдай у душы запытаўся вядомы доктар.

— Чым вы будзеце займацца далей?

— Пакуль два месяцы я працую на дачы, хаця ўжо паступілі прапановы з клінік Баранавіч, Кіева і іншых гарадоў, — сказаў Міхаіл Кулак.

Пракаменціраваць сітуацыю я папрасіў галоўнага ўрача Слонімскага медыцынскага аб'яднання Аляксандра Гулінскага. У прыватнасці ён адзначыў:

— Міхаіл Кулак — пенсіянер. З ім быў заключаны працоўны кантракт. Прайшоў час — кантракт закончыўся. Пасля гэтага я яму прапанаваў папрацаваць у вокавым аддзяленні на палову тарыфнай стаўкі. Ён катэгарычна адмовіўся. Вось і ўвесь канфлікт.

Пасля Міхаіла Кулака вокавае аддзяленне бальніцы ўзначаліла Ніна Зубко, але праз пэўны час яна адмовілася ад гэтай пасады. І на яе месца быў прызначаны ўрач Міхаіл Старык.

— З Міхаілам Кулаком я адпрацаваў шмат гадоў. Гэта вельмі вопытны ўрач, моцны практык. Калі мяне прызначылі загадчыкам вокавага аддзялення, а гэта было для мяне вялікай нечаканасцю, я некалькі разоў званіў Міхаілу Антонавічу і прасіў яго вярнуцца на працу ў аддзяленне. Але ўсякі раз я чуў толькі адмоўны адказ, — сказаў Міхаіл Старык.

Відавочна, што Міхаіл Кулак хацеў бы яшчэ папрацаваць загадчыкам аддзялення бальніцы. Але кантракт з ім, як з пенсіянерам не быў заключаны. Мусіць, з-за гэтага і пакрыўдзіўся доктар.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ЗДАРЭННІ

## Пьяный тракторист

**Недавно по деревне Окуниново Слонимского района промчался трактор МТЗ-82 и опрокинулся.**

Позже выяснилось, что управлял им пьяный водитель.

С травмами он помещен в больницу.

## Слить топливо не удалось

**Житель деревни Крутиловичи Дятловского района попытался пополнить свои запасы горючего.**

Ночью из тракторов, которые находились на территории мастерских колхоза "Гвардия", он слил 150 литров дизельного топлива, однако, был задержан.

Возбуждено уголовное дело.

**Сергей ЧИГРИН**

## Зарыва над горадам

**У адзін з позніх верасеньскіх вечароў на вуліцы Кастрычніцкай у Дзятлаве адбыўся пажар.**

Згарэла страха жылога дома, які належыць адзінокай састарэлай грамадзянцы Д.

Цікава тое, што гаспадыня ў гэты час была ў бальніцы. Прычына пажару высвятляецца.

## Тушонка прыйшлася да спадобы

**Днямі быў абрабаваны каўбасны цэх калгаса "Слава працы", які знаходзіцца ў гарадскім пасёлку Казлоўшчына Дзятлаўскага раёна.**

Злодзеі ўкралі тушонкі амаль на 80 мільёнаў рублёў. Аднак паласавацца ёй не паспелі, бо міліцыя хутка выйшла на след злачынцаў. Імі аказаліся мясцовыя жыхары.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Пакарана добразычлівасць

**У жыхароў Мастоўскага раёна пры цяленні сканала карова.**

Ветурач параіў застрахаваць скаціну ды паабяцаў выдаць даведку пра падзёж больш позней датаю, пасля чаго можна будзе атрымаць грошы. Зман выкрыўся і дзяржстрах звярнуўся ў суд. Добразычлівасць ветэрынарнага ўрача абышлася гаспадарам ў дзесяць мінімальных заробкаў альбо ў 10 мільёнаў рублёў.

## Пацярпела суддзя

**У суддзі К. з горада Масты невядомая асоба ўкрала майкі.**

Хто ўчыніў крадзёж адзення ў прадстаўніка феміды, пакуль невядома.

**Антон МАКЕЙ**

НАВІНЫ

## Слонімскі раён — самы крымінальны ў вобласці

**Сёлета на Гродзеншчыне за восем месяцаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, па лініі крымінальнага вышуку злачыннасць узрасла на 17%.**

У маштабах вобласці лідыруе Слонімшчына. Тут рост злачыннасці павялічыўся на 37,6%. На Зэльвеншчыне крымінальная сітуацыя пагоршылася на 12,3%, на Дзятлаўшчыне — на 5%, а на Мастоўшчыне — на 9,9%.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Хопіць палітінфармацый

**Мастоўскі райвыканкам адмовіў мясцоваму прадпрымальніку Алегу Рудабельцу выдаваць на тэрыторыі раёна літаратурны часопіс "Масты".**

Такое рашэнне чыноўнікі аргументуюць тым, што ў раёне выходзіць газета "Зара над Нёманам". Акрамя таго, два разы на тыдзень гучыць мясцовае радыё, аднаўлена праца таварыства "Веды", а галоўнае, уведзены пасады намеснікаў кіраўнікоў гаспадарак па інфармацыйна-выхаваўчай працы. Маўляў, гэтага дастаткова, каб інфармаваць народ пра тое, як ён добра жыве.

## Упершыню на Гродзеншчыне

**У Мастах упершыню на Гродзеншчыне ў памяшканні музея "Лес і чалавек" адкрылася выстава "Крыжовы шлях", прысвечаная рэпрэсіям 40-50 гадоў на Беларусі.**

Папярэдне гэтая экспазіцыя мелася размясціцца ў Гродна, але мясцовыя чыноўнікі двойчы адмовілі. Матэрыялы для выставы прадаставіла Беларуская жаночая ліга разам з супрацоўнікамі Інстытута Гісторыі Акадэміі Навук Рэспублікі Беларусь.

Дарэчы, гэтыя рэпрэсіі закранулі і жыхароў Мастоўшчыны. У 1939-40 гадах былі асуджаны і сасланы разам з сем'ямі асаднікі, кулакі, служачыя польскай лясной аховы ды яшчэ сацыяльна-ненадзейныя элементы, тыя, хто меў неасцярожнасць у выказваннях у адрас савецкай улады.

Сёння ў раёне атрымліваюць сацыяльныя выплаты, як рэабілітаваныя, 56 асобаў. Выплаты тыя нязначныя і вагаюцца ад аднаго да двух мільёнаў рублёў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## На вуліцы Леніна будзе весялей

**У гарадскім пасёлку Наваельня Дзятлаўскага раёна на вуліцы Леніна пачало працаваць кафэ-бар "Ятранка".**

А з цягам часу непадалёку будзе адкрыты і новы рэстаран.

## Спагадлівыя людзі

**У сям'і Асіпук з г.п. Казлоўшчына, што ў Дзятлаўскім раёне, ёсць двое ўласных дзяцей.**

У мінулым годзе спагадлівыя людзі ўдачарылі чужую дзяўчынку, а сёлета ўзялі апякунства над хлопчыкам Майклам, які нарадзіўся ў Мінску, а па нацыянальнасці з'яўляецца сьера-леонцам. Дзяўчынка яшчэ зусім маленькая, а хлопчык — школьнік.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Выстава карцін Яўгена Іванова

**У сераду, 22 верасня, у памяшканні Слонімскага краязнаўчага музея адкрылася выстава жывапісу і графікі мясцовага мастака Яўгена Іванова.**

Наведвальнікі выставы могуць не толькі азнаёміцца з творчасцю нашага земляка, але і набыць ці замовіць сабе яго мастацкія творы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Отказано в перерегистрации

**Союзу поляков Беларуси (СПБ) уже дважды отказано в перерегистрации.**

Руководство СПБ считает, что такой подход свидетельствует о нежелании властей страны перерегистрировать СПБ, ссылаясь при этом на мнение Гродненского облисполкома. "Нам стало известно, что рассмотрением этих документов занималось не управление юстиции, а лично заместитель председателя облисполкома Мария Бирюкова", — заметил член руководства СПБ.

**БелаПАН**

## Абяцанкі-цацанкі

**Дырэктар саўгаса "Мастоўскі" паабяцаў, што за жніво выплаты будуць зроблены толькі напярэдадні Новага года.**

Гэта вельмі абурыла людзей, таму яны вырашылі правесці акцыю пратэсту, але яна не адбылася. Бо людзям у чарговы раз паабяцалі зрабіць выплаты, але не сказалі, калі гэта адбудзецца.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 22 верасня 1999г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7200 экз.
Заказ № 2491

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

# О ВКУСАХ НЕ СПОРЯТ

Вокруг рок-звезд всегда разгорались страсти не на шутку. Вспомним начало 60-х: "Битлы" были просто богами для наших пап и мам, но изменились времена и изменились "боги". Кому теперь поклоняется современная молодежь? По ком стонет миллионная толпа подростков? А ответ – совсем рядом, даже думать не приходится. Стоит всего лишь посмотреть на исписанные заборы: Nirvana, Kurt Cobain, Prodigy, Keith Flint...

Может, вы впервые слышите эти названия, но поклонники этих групп есть и в Слониме. Некоторые молодые люди нашего города предпочитают носить рваные кеды, черные балахоны, выкрашивать свои волосы во всевозможные цвета, чтобы уподобиться своим любимым кумирам. Сегодня хотелось бы поподробнее рассказать о двух совершенно разных коллективах – группах "Nirvana" и "Prodigy".

### Они пытаются достигнуть "нирваны"

Группа "Nirvana" (нирвана – значит блаженство) стала популярной еще при жизни ее лидера-солиста Курта Кобэна. Именно триумф "Нирваны" вывел на большую сцену сотни независимых групп. Удачную карьеру «Nirvana» сделала в своем первом составе – Курт Кобэн, Дэйв Грол и Крис Новостр. Они, как никто, смогли сформировать идею музыки "гранж" или "панк" – музыки грязной, тяжелой, на которую и опирается в основном масса подрастающего поколения. Но группа была обречена. Люди, подобные Курту, редко доживают до седин. Роковой выстрел положил конец не только жизни солиста, но и истории всего коллектива. Только интерес поклонников не угасает до сих пор, а еще больше разгораются страсти "неформалов".

Конкурентом знаменитой группы выступает не менее известная "Prodigy".


"Nirvana"

### О тех, кто остался "киснуть"

"Продиджисты" или "кислотники" – довольно интересный народ. Трясясь под бешенный темп композиций Кейта Флинта (солист "Prodigy"), молодые люди выглядят весьма вызывающе. Кейт Флинт – личность скандальная. Он то и дело устраивает сюрпризы для своих фанатов, приводя всех в ужас. "Продиджисты" отличаются своей внешностью: волосы могут быть самых разнообразных оттенков – зеленые, синие, красные и т.д., язык обычно вываливается до кадыка от железячек, а в носу, ушах, губах – множество сережек.

Между слонимскими фанатами этих двух групп разгорается настоящая «война», иногда заканчивающаяся потасовками.

О своих музыкальных вкусах рассказывают слонимские поклонники этих двух групп – "Nirvana" и "Prodigy".

**Грецкий Артем**, 16 лет:

– Увлекаться "Нирваной" я начал около двух лет назад. Такая музыка наиболее приемлема для меня, от нее я становлюсь душевнее, мягче. В своих песнях Курт Кобэн хотел выразить грусть, передать душевное состояние. Я считаю, что, одев майку с надписью "Нирвана", человек не становится настоящим "нирванистом". Все должно идти от души, от сердца.

**Барбаров Клим**, 18 лет:

– Я стал слушать "Нирвану" в 9 классе, мне нравится ритм, орущий вокал. Для меня – это стимул жизни, энергетический баланс. Между фанатами "Нирваны" и "Продиджи" существуют конфликты, сами люди инициируют их. Лично я, не считаю это столь серьезным.

**Барышников Женя**, 16 лет:

– Все началось с того, что я стал увлекаться игрой на гитаре, позже стал слушать музыку, где есть гитарные композиции. У Курта в музыке есть какое-то самовыражение, и она пришлась мне по душе. Мне нравится его представление и понятие о жизни и смерти.

**Ракуть Владимир**, 15 лет:

– Я увлекаюсь электронной музыкой, потому что мне нравится группа "Продиджи". Я согласен покрасить волосы в зеленый цвет и одеть сережку на язык, как у "продиджистов", но родители против. В разборках с "нирванистами" я не участвую, пусть слушают, что хотят. "Продиджи" для меня – нечто особенное, как целый неизведанный мир, в нем так легко, я обо всем забываю...

**Цокор Сергей:**

– Музыка "Продиджи" мне очень нравится. Я хочу быть похожим на солиста группы – Кейта Флинта. Особенно меня привлекает стиль группы.

**Янина ХАРИТОНОВИЧ, учащаяся 11 класса СШ№2**


"Prodigy"

## "Главное — не навредить..."

**1345 человек обратилось за помощью в слонимский диагностико-реабилитационный центр в прошлом учебном году.**

На сегодняшний день в центре работают психологи, дифектологи, социальный педагог, врач-психиатр. Важнейшей задачей этих людей является оказание помощи детям-инвалидам, детям с некоторыми особенностями развития.

По словам директора центра Светланы Каляга, "наша система педагогической поддержки детей, помогает им включиться в полноценную жизнь и трудовую деятельность, учитывая потенциальные возможности каждого". Кроме того, работники центра просвещают общественность о необходимости внимания и помощи им.

Светлана Петровна сказала, что "основными принципами работы психологов являются: индивидуальный подход к личности на основе признания уникальности и ценности каждого ребенка". В центре работает и консультационный пункт для родителей, у которых возникли проблемы в воспитании своих детей.

Специалисты центра помогают подросткам в выборе профессии, а так же готовят малышей к школе. Главный девиз работников диагностико-реабилитационного центра: "Не навредить ребенку".

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

## Навіны беларускай рок-музыкі

**Гурт "NRM" яшчэ з ліпеня знаходзіцца ў Польшчы, дзе на адной з варшаўскіх студыяў запісвае новы альбом.**

Са словаў саліста Лявона Вольскага, гэты альбом эклектычны і, у той жа час, яго яднае цяжкое гучанне. Прэзентацыя новага праекту "NRM" адбудзецца на пачатку кастрычніка.

Лідэр гурта "NEURO DUBEL" Аляксандр Кулінковіч правёў лета за падрыхтоўкай новага альбому "Варсінкі і катышкі". Ён лічыць, што альбом будзе тэматычным працягам папярэдняга "Ахотнікa і Сайгака", але па гучанні наблізіцца да "ранняга Дзюбеля", менш "камерцыйнага", але больш "растрындзяйскага". Гурт развітаўся са сваім клавішнікам Максам Івашыным і шукае яму замену.

"НОВАЕ НЕБА" закончыла падрыхтоўку да выхаду новага CD-альбому пад назвай "Цэпэліны". Гэта фактычна першая праграма пасля трохгадовага маўчання гурта. Кася Камоцкая гэта тлумачыць тым, што калектыў быў заняты падрыхтоўкай да святкавання "надзвычайнай круглай даты". Семдзесят гадоў таму ў берлінскае неба ўзняўся аэрастат LZ 127 "Graf Zeppelin", які здзейсніў "Weltflug" – кругасветны пералёт. Тады жыхары "абедзьвюх Беларусяў" "глядзелі ўслед яму са здзіўленнем" і "міжволі чакалі Калядаў"... Новая праграма "Новага неба" ужо "абкатвалася" на розных канцэртах у Беларусі і па-за яе межамі. Прэзентацыя "Цэпелінаў" плануецца на кастрычнік-лістапад.

Гурт "ULIS" таксама рыхтуе новую праграму. Слава Корань свае "творчыя вакацыі" правёў у сядзібе-асяродку вядомага беларускага мастака Лявона Тарасевіча пад Беластокам. Цяпер альбом "ULISA" амаль гатовы да выхаду.

Супольны праект беларускіх музыкантаў "Народны альбом" працягвае сваё трыумфальнае шэсце па Польшчы. Летась "Народны альбом" трыумфальна прэзентаваўся ў Беластоку і Познані, а ў траўні сёлета меў поспех у варшаўскім "Teatry Malym". Цяпер "Народны альбом" чакаюць у Любліне, дзе 6 кастрычніка распачнецца традыцыйны тэатральны фестываль.

**"НН"**

# СЛОНІМСКІЯ ГІМНАЗІСТЫ

**У 30-я гады ў Слоніме існавала шмат навучальных устаноў, і дзяржаўных, і прыватных. Найбольш было яўрэйскіх, бо ў той час яўрэі складалі большасць гарадскога насельніцтва. У горадзе існавалі і польскія школы, гімназіі, настаўніцкая семінарыя.**

Школьная моладзь тады была вельмі актыўнай. Пра гэта сведчаць, напрыклад, маладзёжныя выданні, якія выходзілі ў Слоніме. З 1929 года ў горадзе выходзіў часопіс "Nasza mys'l" ("Наша думка"), які выпускалі навучэнцы гімназіі імя Тадэвуша Касцюшкі і настаўніцкай семінарыі. Хлопцы і дзяўчаты друкавалі ў ім свае вершы, апавяданні, нататкі з вакацыяў, пісалі пра гісторыю роднага краю (была рубрыка "З мінулага Слоніма"). З часопіса можна было даведацца пра тое, што адбывалася ў Польшчы і ў свеце. Напрыклад, пра рэвалюцыю ў Аргентыне ці антысавецкае паўстанне чачэнцаў на Каўказе. Былі таксама рубрыкі "Хроніка гімназіі" і "Хроніка семінарыі".


ECHO MURÓW SZKOLNYCH

У 1933 годзе замест "Нашай думкі" слонімская гімназія імя Касцюшкі і настаўніцкая семінарыя пачалі выдаваць часопіс "Echo muro'w szkolnych" ("Рэха школьных муроў"). Дзякуючы гэтаму выданню можна даведацца, што ў семінарыі дзейнічаў цэлы шэраг суполак: гістарычная і драматычная, спартыўная, краязнаўчая ды іншыя. Існавала грамадская арганізацыя "Братняя дапамога вучняў дзяржаўнай гімназіі ў Слоніме". Кожны яе сябра плаціў у касу арганізацыі 8 злотых у паўгода. Сродкі гэтыя ішлі на розныя патрэбы вучняў, у тым ліку на арганізацыю чытальнай залы, на працу суполак, на выданне часопіса. Напрыклад, кожны сябра "Братняй дапамогі" атрымліваў "Рэха школьных муроў" бясплатна, а для іншых адзін паасобнік каштаваў 50 грошаў.

Краязнаўчая суполка насіла імя С. Сташыца. У 1930 годзе ў ёй налічвалася 78 сяброў, якія былі падзеленыя на тры секцыі: музейную, этнаграфічную і фатаграфічную. Пры суполцы была створана ўласная бібліятэка з 115 краязнаўчых і гістарычных кніжак, ішла праца па стварэнню свайго невялікага музею... Як бачым, выкладчыкі гімназіі і семінарыі імкнуліся развіваць у сваіх вучняў ініцыятыву, заахвочвалі іх да творчай дзейнасці, прывівалі ім любоў да роднага краю.



*Карыкатура Эдмунда Цэльмера, 1941г.*

Апошні вядомы нам нумар "Рэха школьных муроў" выйшаў восенню 1935 года. А яшчэ гімназісты рабілі насценную газету. Дарэчы, гімназія мела свае "фірменныя" сшыткі, на якіх пазначаўся назоў навучальнай установы і месца яе знаходжання.

Восенню 1939 года былых гімназістаў савецкія ўлады накіравалі ў першую беларускую сярэднюю школу ў Слоніме, якая размяшчалася ў былым будынку гімназіі імя Касцюшкі на Савецкай вуліцы (цяпер там знаходзіцца Вучэбна-вытворчы камбінат). Выкладалі ў школе настаўнікі з былой гімназіі, якія тэрмінова вучылі беларускую і рускую мовы. А дырэктарам прызначылі Корабава, які прыехаў з усходу.

Пачалі вывучаць беларускую мову і былыя гімназісты. У тых умовах выдаваць часопіс яны ўжо не маглі, аднак сваю творчасць не спынялі. Малявалі карыкатуры і пісалі да іх вершы. Сярод карыкатурыстаў вылучаўся Эдмунд Цэльмер. На адным з малюнкаў ад 1941 года ён намаляваў трох настаўнікаў: Парката (анатомія і біялогія), Анішчыка (геаграфія) і Маркоўскага (хімія). Надпіс пад карыкатурай сведчыць: "Лёс круціцца колам"... Пасля вайны Цэльмер выехаў у Польшчу, жыў у Варшаве, дзе і памёр.

**Сяргей ЁРШ**

